

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№13 (231) ВЕРАСЕНЬ 2017 ГОД

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# НАТАЛЛЯ КАЧАНАВА Ў ШУМІЛІНЕ

**9 верасня кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта правяла прыём грамадзян у гарадскім пасёлку Шуміліна. Наталля Качанава выслухала 14 зваротаў. Надзёнымі праблемамі прыехалі падзяліцца не толькі жыхары раёна, але і іншых рэгіёнаў – Віцебска, Полацка, Мінска, Магілёва, Мазыра.**

Пытанні, з якімі звярнуліся жыхары гарадскога пасёлка Шуміліна, у асноўным тычыліся добраўпарадкавання, гандлю і сферы паслуг. Жыхар райцэнтра Тадэвуш Тарыма распавёў пра тое, што людзі даўно чакаюць, калі заасфальтуюць участак вуліцы Дубасарскага. Таксама ён не задаволены бедным асартыментам тавараў у крамах сеткі райпо і закрыццём гарадскіх лазняў. Старшыня райвыканкама Аляксандр Снараў паабяцаў, што ў траўні наступнага года праблемны ўчастак вуліцы будзе заасфальтаваны. Наконт іншых праблем ён растлумачыў:

– У райцэнтры прыйшлося зачыніць лазні. Яны былі ў аварыйным стане, але ў горадзе працуе аб'ект для аказання гэтых паслуг і карыстаецца попытам. Магчыма, нязручнасці для некаторых звязаны з адлегласцю, але грамадскі транспарт курсіруе туды без нараканняў. Што тычыцца гандлю, крамы райпо і насамрэч саступаюць канкурэнтам. У агульным тавараабароце раёна іх доля складае 16 адсоткаў. Каб палепшыць працу мясцовых кааператараў, плануецца аб'яднаць іх з Бешанковіцкім райпо, якое гандлюе больш паспяхова.

Надзея Кляцкова папрасіла дапамагчы вырашыць праблему з ліўневай каналізацыяй па вуліцы Юбілейная. Жыхары так званага "ніжняга" горада стаміліся змагацца з падтапленнямі падвалаў, вільгацю і цвіллю ў кватэрах пасля дажджоў. Асабліва пакутуюць жыхары на першых паверхах. Наталля Качанава паабяцала абмеркаваць з абласной уладай пытанне пра ўключэнне ў інвестпраграму наступнага года ўладкавання ліўневай каналізацыі. У сваю чаргу раённым камунальнікам парэкамендавала знайсці аптымальнае інжынернае рашэнне, каб мінімізаваць наступствы падтапленняў, своечасова праводзіць адпампоўку, ачыстку і дэзінфекцыю жылых дамоў на гэтай вуліцы.

Сям'я Уладзіміра Лінкевіча з вёскі Мікалаёва апрацоўвае 12 гектараў зямлі, трымае 20 кароў і цялушак. Вяскоўцам неабходна набыць агрэгаты, якіх пакуль няма ў спісе крэдытавання Белаграпрамбанка на развіццё асабістай падсобнай гаспадаркі. Прыклад гэтых сельскіх працаўнікоў уразіў кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта:

– Трэба заахвочваць імкненне вяскоўцаў апрацоўваць зямлю. Думаю, банку трэба ўнікнуць у сітуацыю і знайсці рашэнне, як дапамагчы людзям.

Старшыня ветэранскай арганізацыі Шумілінcшчыны Кацярына Палоўнікава прыйшла падзяліцца вопытам работы, выказаць падзяку ўладам за падтрымку старэйшага пакалення і нагадаць пра тое, што раёну патрэбен Дом ветэранаў. Арганізацыя налічвае каля 5 тысяч чалавек і вядзе актыўную грамадскую працу. Кіраўнік раёна запэўніў, што пытанне вырашаецца.

Аляксандр Штокін з гарадскога пасёлка Обаль лічыць, што ў раёне не хапае ўладкаваных спартыўных пляцовак з якасным пакрыццём для далучэння моладзі да здаровага ладу жыцця. Наталля Іванаўна паабяцала звязацца з федэрацыямі футбола і валейбола, каб яны аказалі фінансавую падтрымку:

– Ведаю, што ў раёне спорце надаецца сур'ёзная ўвага. Юныя валейбалісты Шумілінcшчыны займаюць прызавыя месцы на ўзроўні краіны. Трэба заахвочваць такія поспехі. Каб выяўляць таленавітых трэнераў і спартсменаў, у тым ліку з глыбінкі, вырашана ў наступным годзе арганізаваць рэспубліканскія чэмпіянаты па ўсіх відах спорту.

Нямала пытанняў паступіла з іншых рэгіёнаў, у асноўным асабістага характару. Напрыклад, прыехалі на прыём бацькі 21-гадовага хлопца, асуджанага на 10 гадоў за збыт і распаўсюджванне наркотыкаў. Пасловах маці, падставай для абвінавачвання стаў званок сябра з просьбай «прывезці кавалачак дыму». Яны слёзна запэўнівалі, што іх сын не займаўся распаўсюдам. Пры гэтым не адмаўляюць, што сам быў схільны да згубнай звычкі. На момант затрымання ў яго знайшлі забароненае рэчыва. Маці і бацька лічаць пакаранне занадта суровым. Ужо два гады шукаюць, на іх погляд, справядлівасці. Наталля Качанава з разуменнем выслухала расповед пра няшчасце ў сям'і:

– Сумна, што ў крымінальныя гісторыі трапляюць маладыя людзі з вышэйшай адукацыяй з шчасных сем'яў. Дарэчным дэталёва разабрацца з вашым справай.

Сустрэча з грамадзянамі доўжылася тры гадзіны. Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта падвяла вынікі прыёму:

– Нечаканых пытанняў, і тых, якія можна назваць сістэмнымі, не было. Парадавала тое, што не прагучала праблем, звязаных з працаўладкаваннем. Сёння гэтая пазіцыя, таксама як і выплата заработнай платы, недапушчэнне росту коштаў – прыярытэтныя напрамкі сацыяльнай палітыкі. Звароты па навядзенні парадку, паляпшэнню работы гандлю раённая ўлада здольная вырашыць сама. Каб людзі трымалі руку на пульсе падзей свайго рэгіёну, кіраўнікі павінны рэгулярна праводзіць сустрэчы з насельніцтвам. Фарматы зносін могуць быць самымі рознымі. Галоўнае – данесці, чым жыве горад, раён, пасёлак, што актуальна цяпер і якія перспектывы развіцця гэтай тэрыторыі. Тады і зваротаў у вышэйстаячыя органы будзе меней.

**sb.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

КУЛЬТУРА

# НОВЫ ТВОР

**У раённай бібліятэцы прайшла прэзентацыя кнігі Міколы Мароза «Не прасі палёгкі ў жыцця». На сустрэчу, арганізаваную кіраўніком літаратурна-музычнай гасцёўні «Крыніцы» Людмілай Грыгор'евай, прыйшлі прыхільнікі творчасці пісьменніка, знаёмыя, сябры і калегі. Кніга пабачыла свет год таму, а некаторыя аматары беларускай літаратуры ўжо мелі магчымасць набыць яе ў асабістую бібліятэку і пачытаць.**

Некалі ўступных слоў пра аўтара.

Гэта наш вядомы шумілінскі зямляк, вопытны журналіст, публіцыст, пісьменнік, шчыры прыхільнік беларускага слова… І тут само жыццё дало ў якасці прэзента Мікалаю Марозу, як шчыраму беларусу, шмат чалавечых узнагарод. І пры ўсім тым – сваё непаўторнае бачанне свету, багатага на вобразы і сюжэты. На презентацыі ў адрас Міколы Мароза шмат цёплых слоў сказала Людміла Грыгор'ёва, загадчыца раённаё бібліятэкі.

У сваю чаргу ўспамінамі пра пачатак літаратурнай дзейнасці распавёў сам аўтар. Прысутныя даведаліся, што стаць пісьменнікам для яго ў юнацтве было нейкай касмічнай марай. І ў далейшым высветлілася, што калі працаваць над самім сабой, любіць жывое беларускае слова – мары збываюцца. Доказа таму – пяць выдадзеных кніг, якія карыстаюцца папулярнасцю ў чытачоў.

Новы твор мастацкай прозы "Не прасі палёгкі ў жыцця" ўвабраў у сябе дзве аповесці "Русалка", "На ўсё свой час". Гэта расповед пра каханне, пра нялёгкія жыццёвыя пошукі герояў, пра тыя цяжкія пачуцці, калі чалавек не знаходзіць паразумення. З жыццёвымі калізіямі і сюжэтамі і тры апавяданні "Свае і чужыя", "У завею", "Адшчапенец". Сабраны ў кнізе таксама абразкі, разважанні, дарожныя нататкі, мініяцюры, карацелькі. Гэта жыццё ў мініяцюры, як сцвярджае сам пісьменнік.

Дарэчы, былы рэдактар раёнкі Анатоль Бруцкі, таксама журналіст, пісьменнік і публіцыст назваў Мікалая Мароза ці не самым стылёвым беларускамоўным пісьменнікам на Віцебшчыне. Яго стыль і мова адметныя, каларытныя і самабытныя, падкрэсліў Анатоль Паўлавіч.

Вядомы краяўзнаўца Віктар Улюценка (Антон Параскевін), таксама аўтар некалькіх кніг, звярнуў увагу прысутных на тое, што Мікалай Мароз з той кагорты тых выскародных людзей, якія любяць чалавека і жыццё, ім не страчана такое паняцце, як роднае поле, родная ніва, гуманізм да бліжняга.

**Алесь Прыбярэжны**

СПОРТ

# СЯМ'Я ПЕРАМОЖЦАЎ

**Сям'я Далецкіх з аграгарадка Башні заняла 2-е месца на рэспубліканскім фестывалі «Тата, мама, я - футбольная сям'я!»**

Варта адзначыць, што дадзены сямейны фестываль, адзіны ў краіне такога маштабу, – ініцыятыва Беларускай федэрацыі футбола. Партнёрамі выступілі Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа, якое рэалізуе праект па прафілактыцы неінфекцыйных захворванняў і прасоўванні ЗОЖ сярод насельніцтва, і ЮНІСЕФ.

На свяце футбола Віцебскую вобласць прадстаўлялі дзесяць сем'яў, сярод якіх была і сям'я Далецкіх з аграгарадка Башні Шумілінскага раёна. Для таго, каб паехаць у Мінск, ёй давялося пераадолець сіта абласнога адбору, на які заявіліся 76 «пярвічных ячэек грамадства». Нашы героі па выніках турніру ўзначалілі турнірную табліцу.

У сталіцы чакала яшчэ вялікая канкурэнцыя: 100 сямейных дружын з усёй краіны! Дружалюбную і вясёлую атмасферу свята забяспечвалі забаўляльная праграма, конкурсы і віктарыны. Каманда з Шумілінcшчыны не збянэжылася і заслужана завявала сярэбраныя ўзнагароды.

Гэты поспех невыпадковы. Тата Андрэй Далецкі, які працуе загадчыкам дзіцячага сада ў Башнях, адзначае, што яго дружная сям'я стараецца прымаць удзел ва ўсіх раённых мерапрыемствах, і не толькі спартыўнага плана. Жонка Вольга – галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Шумілінскага райвыканкама – ва ўсім падтрымлівае мужа.

«Футбольнае напрамак» сямейнаму караблю надаў сын Мікіта, 8-класнік мясцовай школы, дзе функцыянуе і свая секцыя самага любімага ў народзе віду спорту. Пачын блізкіх падтрымалі і дзяўчынкі: старэйшая Аляксандра, якая перайшла ў 11-ы клас раённай гімназіі-інтэрната, і другакласніца Валя. Дзяўчынкі спасцігаюць асновы ведаў у родных Башнях.

Паспяховы ўдзел у фестывалі быў адзначана ўзнагародамі. Акрамя кубка і срэбных медалёў, прызёры атрымалі на памяць бранзалеты і футбольны мяч з аўтографамі гульцоў зборнай Беларусі. Апошняй акалічнасці асабліва былі рады Мікіта.

А яшчэ дзякуючы поспеху сям'я Далецкіх у поўным складзе 3 верасня назірала з VIP-ложы «Барысаў-Арэны» матч кваліфікацыі чэмпіянату свету-2018.

**Vitvesti**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# СТАЛОВЫЯ НА КОЛАХ

**На палях раёна наладзілі двухразовае гарачае харчаванне: для камбайнераў Шумілінnetwork працуюць 10 сталовых на колах. Прама ў поле аграрыям раёна прывозяць поўны комплекс абедаў і вячэру. У абавязковым рацыёне мяса, мінеральная і пітная вада.**

Накарміць кожнага камбайнера — такую задачу прафсаюзам Беларусі падчас селектарнай нарады па жніве паставіў кіраўнік дзяржавы, паведамілі ў праграме Навіны «24 гадзіны» на СТВ.

З самага пачатку ўборачнай па ўсёй краіне па некалькі разоў на дзень выязджаюць тысячы машын з гарачай ежай.

Толькі ў Шумілінскім раёне працуе 10 сталовых на колах. Прама ў поле аграрыям прывозяць поўны комплекс абедаў і вячэру. У абавязковым рацыёне мяса, мінеральная і пітная вада.

МікалайКарнілаў,механізатар ААТ «Прыазёрны мір»:

"Вы ж самі бачыце, кожны дзень нармальна кормяць. Са сталовай возяць і вячэру, і ўсё. Кожны раз мяняюцца абеды — і крупы, і кашы, і супы розныя.

Не тое, што адно і тое ж кожны дзень. "

Віктар Гутараў, старшыня Віцебскага абласнога камітэта прафсаюзаў АПК:"Селектарная нарада — яно з'явілася нейкім момантам, калі ўсе структуры яшчэ раз звярнулі ўвагу на арганізацыю работ на ўборцы збожжавых. Прафсаюзам выразна пастаўлена задача: арганізацыя і кантроль харчавання механізатараў на ўборцы. І мы, натуральна, увага ўдзяляем тых пытаннях, каб якасць харчавання, каб своечасовасць падвозу і ў абавязковым парадку двухразовае гарачае харчаванне".

Дарэчы, У Шумілінскім раёне ўжо ўбрана 20% плошчаў, занятых пад збожжавыя.

Літаральна за тыдзень тут намалацілі больш за 3000 тон збожжа. Усяго ж прыбраць трэба яшчэ 11 тысяч гектараў.

**ctv.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# ТРЭНІНГ У АГРАГАРАДКУ

**Аграгарадок Мішневічы наведаў першы намеснік начальніка Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС Дзмітрый Панцюхоў. Адкрыла мерапрыемства старшыня Мішневіцкага сельвыканкама Галіна Зязюлька, якая распавяла пра мэты сустрэчы і прадставіла гасцей сходу.**

Далей начальнік Шумілінскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях Андрэй Сасновіч распавёў прысутным пра пажары, якія адбыліся на тэрыторыі раёна і гібелі чалавека на пажары.

У сваім выступе Дзмітрый Васільевіч Панцюхоў азнаёміў прысутных з аператыўнай абстаноўкай з пажарамі і гібеллю людзей на іх у вобласці і рэспубліцы. Таксама акцэнтаваў увагу на пытанні папярэджання дзіцячага свавольства з агнём. Ён нагадаў аб мерах пажарнай бяспекі ў побыце і на працоўных месцах, асвятліў асноўныя прычыны ўзнікнення пажараў, прывёў прыклады вогненных здарэнняў. Асаблівую ўвагу надаў наяўнасці ў сучасных дамах вялікай колькасці электраспажыўцоў, што ў сваю чаргу стварае магчымасць узнікнення пажару ад электраабсталявання.

Падчас выступлення было ўказана на неабходнасць установкі АПА ва ўсіх жылых памяшканнях. Удзельнікі мерапрыемства прадэманстравалі, як будуць эвакуіраваць людзей з палаючага будынка, ліквідаваць узгаранне з дапамогай вогнетушыцеля і з упэўненасцю адказалі на ўсе зададзеныя пытанні.

У завяршэнні мерапрыемства прадстаўнік абласнога ўпраўлення МНС асвятліў праблему пакідання дзяцей без нагляду, пасля чаго быў прадэманстраваны відэафільм «Кошт імгнення».

Дзмітрый Васільевіч наведаў домаўладанне адзінокага грамадзяніна Іванова М.Т. і аддзяленне кругласутачнага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту і інвалідаў у аграгарадку Мішневічы. Пасля сустрэч Панцюхоў склаў кансультатыўныя гутаркі па пытаннях выканання патрабаванняў пажарнай бяспекі на аб'ектах і ў домаўладаннях.

**У. Амбросаў**

# ЗАСТРЭЛІЎ САБАКУ

**Напрыканцы жніўня ў Шуміліне ўчастковаму міліцыянту давялося ўжыць табельную зброю супраць бадзяжнага агрэсіўнага сабакі.**

У райаддзел міліцыі патэлефанаваў жыхар Шуміліна. Ён паведаміў, што не можа выйсці з свайго дома – на яго нападае агрэсіўная сабака, як мяркуецца, шалёная.

Па выкліку прыбыў участковы. Сабака напала і на яго. Міліцыянту прыйшлося прымяніць табельную зброю і стрэліць у жывёлу.

Паводле прэсслужбы, праваахоўнік дзейнічаў у адпаведнасці з арт. 29 Закона аб органах унутраных спраў, ужыўшы табельную зброю для абясшкоджвання жывелы, якая непасрэдна пагражала жыццю і здароўю грамадзян.

Труп сабакі адвезлі ў Віцебск, спецыялісты ўсталююць, ці была яна шалёнай. Праводзіцца праверка абставінаў інцыдэнту.

**TUT. BY**

З ЗАЛЫ СУДА

# АСУДЗІЛІ ЎХІЛІСТА

**26-гадовага шумілінца судзілі за ўхіленне ад вайсковай службы.**

Як высветлілася, для маладзёна П. гэта было не першае парушэнне закона, за парушэнне воінскага ўліку ён і раней прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці . Менавіта таму за ўхіленне ад арміі на яго была заведзена крымінальная справа.

Днямі прайшоў суд Шумілінскага раёна. Суддзя Кацярыны Унуковіч запытала, чаму парушальнік не з'явіўся ў суд па павестцы. У адказ малады чалавек тлумачыў, што ён з'яўляецца індывідуальным прадпрымальнікам, а калі трэба было ісці ў ваенкамат, з'явілася многа заказаў ад кліентаў. Аднак гэтае тлумачэнне ніякім чынам не апраўдвае грамадзяніна і не вызваляе яго ад адказнасці.

Тлумачэнні ўхіліста не займелі рацыі, а паказанні сведкаў, довады намесніка пракурора Шумілінскага раёна Андрэя Дзергачова і начальніка Шумілінскага раённа ваеннага камісарыята Бешанковіцкага і Шумілінскага раёнаў Андрэя Собіна суд прыняў да дзеяння. За «ухіленне ад мерапрыемстваў прызыву на ваенную службу». грамадзянін П. быў прыцягнуты да адказнасці ў выглядзе штрафу памерам у 60 базавых велічынь (1380 рублёў). І калі ён не выплаціць штраф, тады яму пагражае арышт да трох месяцаў.

Зрэшты, выплата штрафу зусім не вызваляе ад воінскага абавязку. Праз некаторы час маладзён зноў атрымае павестку ў ваенкамат.

Дарэчы,укатэгорыю«ухілістаў» трапілі яшчэ 16 маладзёнаў з Шумілінскага рёна, якім доўгі час не ўдаецца ўручыць персанальныя павесткі.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# УТАПІЎСЯ Ў САЖАЛЦЫ

**У Шумілінскім раёне на вадаёме паблізу вёскі Будоболь ратавальнікі выцягнулі з вады чалавека, які знаходзіўся ў салоне легкавога аўтамабіля.**

Папярэдне вядома, што 2 верасня каля дзевяці вечара мужчына не справіўся з кіраваннем аўтамабіля «Фіят» на прасёлкавай дарозе і з'ехаў у вадаём-копанку.

Жыхар хутара каля вёскі Будоболь разам са сваякамі і знаёмымі чысціў сажалку, размешчаную ў 350 метрах ад дома. Няшчасны выпадак здарыўся, калі 31-гадовы гаспадар пад'ехаў на загружанай дровамі машыне да вадаёма. Аўтамабіль заехаў у яго і схаваўся пад вадой. Відавочцы паведамілі аб здарэнні ў экстранныя службы.

Работнікі МНС вынялі кіроўцу праз акно легкавушкі і перадалі брыгадзе хуткай дапамогі. Аднак пасля рэанімацыйных мерапрыемстваў была канстатавана смерць мужчыны.

Следчыя Шумілінскага раённага аддзела Следчага камітэта праводзяць праверку па факце гібелі кіроўцы. Прызначаная судова-медыцынская экспертыза, якая дазволіць устанавіць прычыну смерці, а па транспартным сродку – аўтатэхнічнай.

**Сяржук Крупскі**
**паводле vk.com/mchsvitebsk**

# ЗНІШЧАНЫ ДОМ І ХЛЕЎ

**Вечарам 4 верасня адбылося ўзгаранне жылога і надворнай пабудовы ў вёсцы Далуева Мікалаеўскага сельскага савета.**

У 20-29 4 верасня ў аддзяленне МНС паступіла паведамленне аб пажары дома ў вёсцы Далуева Мікалаеўскага сельсавета.

У выніку гаспадар панёс значныя страты. Ад пажару ў доме памерам 5×6 м знішчаны дах, паталочнае перакрыцце і маёмасць. Агнём таксама былі пашкоджаны сцены і знішчаны хлеў памерам 3×5 м.

Прычына пажару высвятляецца

# ВЫЧВАРЭНЕЦ УЗЯТЫ ПАД ВАРТУ

**31-гадовы мужчына з Шуміліна затрыманы за спакушэнне хлопчыкаў-падлеткаў.**

Як паведамляе МУС, увага аператыўнікаў прыцягнуў адзін з карыстальнікаў сацыяльнай сеткі vk.com, які з акаўнта пад выдуманымі дадзенымі заводзіў знаёмствы з хлопчыкамі, якія не дасягнулі шаснаццацігадовага ўзросту, і ўгаворваў іх ўступіць у нетрадыцыйныя інтымныя адносіны. Пасля было ўстаноўлена, што мужчына на працягу некалькіх гадоў размясціў у соцсеть 16 відэафайлаў, якія змяшчаюць прыкметы парнаграфіі і забароненых для распаўсюду, а таксама вырабіў з дапамогай мабільных тэлефонаў больш за 130 фотавыяў адпаведнага зместу.

Акрамя таго, з пачатку 2016 года 31-гадовы жыхар Шуміліна неаднаразова здзяйсняў мужаложства і іншыя дзеянні сэксуальнага характару ў дачыненні да падлеткаў 14-15 гадоў. Сустрэчы адбываліся без ужывання гвалту, па ўзаемнай згодзе ў розных месцах Віцебска (на берагах рэк, у грамадскіх туалетах буйных гандлёвых цэнтраў, на тэхнічным паверсе шматпавярховага дома).

У дачыненні да затрыманага распачаты крымінальныя справы па ч. 2 ст.168 КК (палавыя зносіны, учыненыя асобай, якая дасягнула васемнаццацігадовага ўзросту, з тварам, загадзя не дасягнулым шаснаццацігадовага ўзросту ...), а таксама на падставе чч. 2 стст. 343 і 343-1 КК (выраб, захоўванне з мэтай вырабу і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў з выкарыстаннем глабальнай кампутарнай сеткі Інтэрнэт, заведама непаўнагадоваму, учыненыя асобай, якая дасягнула васемнаццацігадовага ўзросту ...). Падазраваны заключаны пад варту.

**Сяржук Крупскі**
**паводле mvd.gov.by**
**Пераклад з расейскай рэдакцыі**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АНАЛІТЫКА

# МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ: ПЕРАДВЫБАРЧЫ ПЕЙЗАЖ

**Дзесьці ў студзені-лютым 2018-га, у Беларусі павінны адбыцца выбары ў мясцовыя саветы. Улады збіраюцца праводзіць выбарчую кампанію ў сваёй звыклай манеры, нічога асабліва мяняць не будуць, дый не могуць. Звычайна мясцовыя выбары ў Беларусі мала каго цікавяць. Але толькі не гэтым разам...**

**Абыякавасць выгадная**

Гэта ў Еўропе працэнт удзелу грамадзян у такіх выбарах звычайна вышэйшы, чым у парламенцкай выбарчай кампаніі. Бо штодзённае жыццё і побыт людзей больш залежыць ад мясцовай улады, чым ад парламента. А ў Беларусі ўсё па-іншаму. Бо, па-першае, насамрэч выбараў у нас няма з 1996 года. Усё, што адбываецца апошнія 20 гадоў, — гэта імітацыя выбарчага працэсу.

Па-другое, няма і мясцовага самакіравання. Саветы — гэты рудымент савецкага дзяржаўнага ладу. Яны не маюць рэальнай улады, з'яўляюцца пятым колам у дзяржаўнай калясніцы, дэкаратыўным фасадам беларускай палітычнай сістэмы (уласна, як і парламент, суд, прафсаюзы і інш.). Маўляў, трэба ж, каб і ў нас было, як людзей: у Еўропе ёсць мясцовае самакіраванне, няхай і ў нас будзе нешта такое.

Нават парламенцкія выбары ў Беларусі ўлады спрабуюць правесці па-за палітычнай прасторай, падштурхоўваюць кандыдатаў у бок абмеркавання толькі праблем выбарчай акругі. А ужо мясцовыя выбары тым болей зводзяцца толькі да пытанняў, якія хвалююць жыхароў таго ці іншага рэгіёну.

Дарэчы, такая сітуацыя выгадная ўладам. Бо праўладныя кандыдаты — гэта, як правіла, нейкія начальнікі. У іх больш магчымасцяў вырашаць бытавыя праблемы населеных пунктаў. А ад апазіцыі кандыдатамі ідуць у лепшым выпадку інтэлігенты (дактары, настаўнікі), а ў горшым — беспрацоўныя ці прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. У іх апрыёры менш магчымасцяў адрамантаваць дарогу, жытло ці арганізаваць аўтобусны маршрут.

**Новыя ўмовы і вяртанне ў 1990-я**

Але гэтыя выбары будуць праходзіць у пэўным сэнсе ў новых умовах. Вясновыя акцыі пратэсту паказалі, што адбываецца крызіс беларускай сацыяльнай мадэлі. Эканамічная рэцэсія двух апошніх гадоў спарадзіла ў грамадстве ідэалагічны крызіс. Падобная сітуацыя здарылася ў пачатку 1990-х гадоў пасля краху СССР і сацыялістычнай сістэмы. Разбурэнне ранейшай карціны свету выклікала ў масавай свядомасці псіхалагічны шок. Стварэнне Лукашэнкам беларускай сацыяльнай мадэлі дазволіла пераадолець яго, стварыць новую светапоглядную сістэму каардынатаў.

І вось цяпер у нейкай меры мы вяртаемся да пачатку 1990-х гадоў. Ва ўяўленнях кіруючай эліты і грамадства бурыцца звыклы светапарадак, ранейшая сістэма каштоўнасцяў. Сярод насельніцтва з'явілася расчараванне і роспач. Прыходзіць усведамленне, што крызіс, падзенне ўзроўню жыцця — гэта не часовыя цяжкасці, выкліканыя вонкавымі чыннікамі, як спрабуе давесці ўлада, а надоўга, можа назаўсёды. Гэта ўжо знайшло адлюстраванне ў сацыялагічных апытаннях. З'яўляецца ўсведамленне, што беларуская сацыяльная мадэль — гэта тупіковы варыянт, што 20 гадоў Сусанін вёў краіну не туды.

Дэкрэт №3 аб дармаедах давяршыў агульную карціну. Ён ударыў па маральнаму аўтарытэту ўладаў і прэзідэнту, у прыватнасці, спарадзіў этычны крызіс у адносінах паміж дзяржавай і народам. Бо абвяшчаць дармаедамі людзей, якія апынуліся ў бядзе, без працы, ды яшчэ прымушаць іх плаціць за гэта штраф, — гэта насельніцтва палічыла дзікай несправядлівасцю.

Аляксандр Лукашэнка тое адчувае, таму ліхаманкава імкнецца памяняць сітуацыю. Ледзь урад і выканаўчая вертыкаль паспелі распрацаваць графікі выхаду да канца года на сярэдні заробак у краіне ў 1000 рублёў, як кіраўнік дзяржавы паспяшаўся ашчаслівіць беларусаў новай дзяржаўнай шчодрасцю. Мінулым тыднем ён даручыў у будучым годзе давесці сярэдні заробак да 1500 рублёў. Такім чынам, ён спрабуе аднавіць сацыяльны кантракт з грамадствам.

Не ўпэўнены, што такім спосабам гэта ўдасца. Бо беларусы памятаюць, што абяцанне давесці заробак да 500 долараў раней давалася ўжо два разы. І ўсялякі раз заканчвалася кепска — вялікай дэвальвацыяй. То боку масавай свядомасці грамадства згадка пра гэты піяр-ход звязана з псіхалагічнай траўмай.

Акрамя таго, 70% беларусаў атрымліваюць менш афіцыйнага сярэдняга заробку. То бок ён выцягваецца за кошт росту даходаў у высокааплатных работнікаў. У рэгіёнах не тое, што 1000 рублёў, а нават 500 рублёў лічыцца добрым заробкам. Таму ўсе развагі Лукашэнкі пра 1000 ці 1500 рублёў выклікаюць у ягонага электарату толькі раздражненне, даюць адваротны эфект.

І гэта ставарае большыя магчымасці для апазіцыі ў камунікацыі з электаратам. Думаю, гэтым разам «дзіцячая хвароба левізны» ў дэмакратычных сілах Беларусі ў выглядзе байкоту пераадоленая. Мясцовыя выбары ў меншай ступені патрабуюць адзінства апазіцыі, што, як вядома, з'яўляецца вялікай праблемай для апанентаў існага рэжыму…

**Апазіцыю прапусцяць?**

Гледзячы па ўсім, дэмакратызаваць выбарчы працэс, уносіць сутнасныя змены ў заканадаўства аб выбарах улады не збіраюцца. За гэтую крэпасць яны будуць змагацца да канца. Таму ніякіх ілюзій на гэты конт у апазіцыі не павінна быць. Спадзяванні на тое, што Захад прымусіць Лукашэнку правесці дэмакратычныя выбары, марныя.

Паводле старшыні Цэнтрвыбаркама Ярмошынай, нейкія прапановы ў Выбарчы кодэкс былі гатовыя яшчэ ў пачатку года, нарада ў прэзідэнта анансавалася на сакавік. Сёння ўжо жнівень, а яе няма. Лідзія Ярмошына намякала, што хутка ўжо будзе позна нешта мяняць, бо перад самымі выбарамі ўносіць змены нельга.

Улады збіраюцца праводзіць выбарчую кампанію ў сваёй звыклай манеры, нічога асабліва мяняць не будуць, дый не могуць. За доўгі час існавання аўтарытарызму, адсутнасці рэальных выбараў, яны адвыклі ад канкурэнцыі развучыліся весці рэальную барацьбу. Больш за тое, яны проста не ўмеюць размаўляць з насельніцтвам. Варта ўзгадаць, якімі бездапаможнымі былі кіраўнікі гарадоў, калі А. Лукашэнка загадаў ім выходзіць на плошчу да народа падчас вясновых акцый пратэсту.

У такой сітуацыі прагрэс можна прадэманстраваць толькі ў тым, каб прапусціць у мясцовыя саветы пэўную колькасць апазіцыянераў. Прычым, пажадана, не ў Мінску ці нейкіх буйных гарадах, бо гэта больш небяспечна, а дзесьці на перыферыі.

Варта звярнуць увагу, што вясной адносна масавыя акцыі пратэсту прайшлі ў не ў Мінску, а ў рэгіёнах: у такіх гарадах, як Гомель, Пінск, Маладзечна, Бабруйск, Орша, Рагачоў. Бо крызіс закрануў правінцыю значна мацней, чым сталіцу. Там недавер да ўлады значна большы. Апазіцыі варта гэта ўлічваць, мець на ўвазе. Можа нават дэмакратычнаму актыву з'ехаць з Мінску ў рэгіёны. Бо там цяпер для іх больш спрыяльная глеба.




Таму можна меркаваць, што палітычная барацьба падчас гэтай выбарчай кампаніі раптам перамесціцца ў рэгіёны. Не выключана, што гэтым разам рэй можа весці правінцыя. І гэта новая з'ява ў беларускай палітыцы.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**

НАША СПАДЧЫНА

# ПОЛЕ АРШАНСКАЙ БІТВЫ ПРАЗ 503 ГАДЫ

**Сучасныя беларускія гісторыкі ня могуць адназначна сказаць, на якім месцы адбылася гістарычная бітва 8 верасьня 1514 году. Вынік яе вядомы: у бітве пад Воршай войска на чале зь вялікім гетманам Вялікага Княства Літоўскага Канстанцінам Астроскім перамагло ўтрая большае войска Маскоўскага княства.**

А вось тапаграфічных вэрсій некалькі, і ў кожнай адны й тыя самыя арыенціры: маленькая рэчка Крапіўна, або Крапівенка, і шырокі Дняпро, куды яна ўпадае...

На беразе Крапівенкі сёньня — дамкі-лецішчы. І поле, вядомае ў найноўшай гісторыі ўжо не вайсковай славай, а музычнай: тут у першыя выходныя верасьня, пачынаючы зь 1991 году, адбываўся фэстываль бардаўскай песьні і паэзіі ў гонар перамогі войска ВКЛ над маскоўскімі дружынамі. Больш за 10 гадоў фэст праводзіўся рэгулярна, але з 2007-га ўлады перашкаджалі правядзеньню культурніцкай патрыятычнай імпрэзы, затрымлівалі і арыштоўвалі яе ўдзельнікаў. Сьпеўны фэст пачалі лічыць «несанкцыянаваным мерапрыемствам», і небясьпека быць пакаранымі зрабіла колькасьць выступоўцаў і слухачоў меншай у дзясяткі разоў.

Шматкроць рабіліся спробы перанесьці выступы ў іншыя мясьціны паблізу, і штогод на пачатку верасьня сюды прыяжджалі кампаніі з гітарамі.

У 2014 годзе былі спробы ўрачыста адзначыць 500-я ўгодкі бітвы. Пра гэтую дату сьведчыць надпіс на вялікім валуне. Побач яшчэ валуны, з выявамі і імёнамі славутых ваяроў і грамадзкіх дзеячоў ВКЛ — Астроскага, Сапегі, Радзівіла.

Непадалёк можна ўбачыць камень зь лічбамі «1514» і яшчэ адзін, уцослы ў зямлю, — з радкамі песьні пра бітву і яе герояў. Ад валуна да валуна вядзе сьцяжынка (яе называюць «Сьцяжына герояў»), а пачынаецца яна на высокім узгорку, амаль што ад самага крыжа з надпісам «Героям Аршанскай перамогі». Унізе, на самым беразе, стаіць помнік-камень з шыльдай, якая нагадвае пра падзеі сівой даўніны.

Усё гэта: помнік, камяні з выявамі і надпісамі, драўляны пяціметровы крыж — зроблена неабыякавымі людзьмі, якія шануюць беларускую гісторыю. Улады аніякім чынам не прычыніліся да ўшанаваньня гістарычных падзеяў. Наадварот: якраз напярэдадні чарговых угодкаў ахвотныя трапіць на месца бітвы вельмі часта сутыкаюцца зь перашкодамі, бо нехта аддае загад пераараць Крапівенскае поле.

Такздарылася і сёлета, піша на сваёй старонцы ў Facebookаршанскі актывіст Генадзь Шэпелеў. Поле зноў узаралі. Але наўрад ці гэткая падступная дробязь можа спыніць тых, хто прыедзе ўспомніць герояў бітвы пад Воршай.



**“Радыё Свабода”**

КАДРАВАЯ ПАЛІТЫКА

# «НЕ ПЕРЕСАЖИВАТЬ ИЗ КРЕСЛА В КРЕСЛО!»

**Чиновники, оскандалившиеся на махинациях с квартирами, тихо-мирно вернулись на государственную службу.**

Осень-2012 в Гомеле, накануне выборов в парламент, была омрачена громкими арестами и разоблачениями. Задержали за махинации с квартирами градоначальника Виктора Пилипца. Сняли с должности помощника президента по Гомельской области Игоря Прокопенко. Он баллотировался в парламент, но, уже получив удостоверение кандидата, от дальнейшей борьбы отказался. И исчез.

Был уволен замешанный в некрасивых делах со злополучными квартирами заместитель председателя облисполкома Александр Баранов. Он, правда, не сел, а всего лишь пересел — из кресла в облисполкоме в кресло заместителя директора «Белоруснефть-Гомельоблнефтепродукт». Но и тут его настиг перст указующий и рука карающая.

Главный борец с коррупцией, в одиночку и отважно размахивающий шашкой 23 года в чистом поле среди врагов-мздоимцев, донёс до своего народа и парламента в апреле 2014 года, что опять изобличил вредных непослушных чиновников. Оказалось, это они друг друга из кресла в кресло пересаживают. Но президент видит всё!

«Сплошь и рядом мы видим такую ситуацию. Провалил дело, развалил всё, что смог, сбежал с руководящей должности и почти тут же всплыл в другом качестве — и опять на хлебном, сытном и теплом месте. Судите сами, за махинации с продажей квартир в Гомеле от должности первого зампредседателя облисполкома был освобожден Баранов. После чего он устроился первым заместителем директора «Белоруснефть-Гомельоблнефтепродукт», — рассказал правду-матушку президент.

Упомянув всуе и других гомельских чиновников, оскоромившихся на квартирах, он уверенно заявил, что «сегодня, конечно же, все они выдворены с этих должностей». Руководитель государства дал чиновникам всех мастей последнее предупреждение. «Еще хоть одно подобное повторение — и вы вместе с ними пойдете, знаете куда! Я еще раз подчеркиваю: это касается губернаторов и всей вертикали власти», — был суров глава государства. Но вряд ли справедлив. Если вспомнить, что именно он единолично утверждает им упомянутых губернаторов и прочую вертикаль.

И вот они вместе пошли сами знаете куда. К примеру, Александр Баранов отыскался в новом кресле — на должности начальника Минского областного комитета природных ресурсов и охраны окружающей среды. Интересно, кто именно утверждал его в должности?

Бывшие гомельские чиновники Александр Баранов и Игорь Прокопенко теперь трудятся во благо природы Минской области

«Мінская праўда» о новом назначении написала так: «Возглавил». Вероятно, сам захотел, кресло свободное присмотрел — и занял.

Не слышно, не видно было эти годы, по крайней мере, в прессе, о судьбе бывшего помощника президента по Гомельской области Игоре Прокопенко. Его фамилия также упоминалась в связи с нехорошими квартирами. 6 сентября 2012 года он был отстранен от должности. 17 сентября по личному заявлению снялся с предвыборной гонки в Новобелицком избирательном округе, где должен был баллотироваться в депутаты нижней палаты парламента в качестве кандидата от власти.

А в сентябре 2017 года стало известно, что начальником отдела координации контрольной деятельности того же Минского областного комитета природных ресурсов и охраны окружающей среды работает некий Игорь Николаевич Прокопенко, имя, отчество и фамилия которого совпадают с попавшим в немилость бывшим помощником президента.

«Мне должны быть положены на стол меры, которые приняты к тем, кто их пересаживал с одного места на другое. Такие явления надо пресекать в зародыше, чтобы никому повадно не было... Даже если коррупция проникает в те государственные органы, которые должны возглавлять борьбу с ней, то и там калёным железом мы будем выжигать эту нечисть», — обещал народу и парламенту в 2014 году президент Беларуси.

Да что-то не торопится выжигать.

**Алена Германович**
**naviny.by**

МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ

# АБРАНЫЯ ДЭПУТАТЫ ЛЕПШ, ЧЫМ ПРЫЗНАЧЭНЦЫ

**Старшыня «Руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч адказаў на пытанні прэс-службы кампаніі назірання «Права выбару-2018».**

***Юрый, якія ў вас чаканні ад мясцовых выбраў 2018 года?***

Магчымыя змены ў падыходах да правядзення выбараў шмат у чым залежаць ад цвёрдасці заходніх партнёраў Аляксандра Лукашэнкі. Калі з парадку дня іх перамоваў не выпадзе пытанне зменаў у выбарчае заканадаўства, альбо перадусім практыкі правядзення выбараў, то ўмовы іх правядзення ў нейкай ступені могуць палепшыцца.

Я перакананы, што ёсць сотні дэмакратычных актывістаў, якія могуць правесці эфектыўныя кампаніі на ўзроўні мясцовых саветаў і атрымаць перамогу. Але залежыць ад добрай волі беларускіх уладаў наколькі гэта будзе зафіксавана ў пратаколах выбарчых камісій. Патрэбная моцная кампанія назірання, каб спраўдзіць рэальны стан рэчаў. Калі ж фальсіфікацыі па-ранейшаму будуць, то наша назіранне, прынамсі, паспрыяе, каб не ўсё было так гладка для тых, хто кіруе выбарчым працэсам.

***Ці лічыце вы, што выбары пройдуць па традыцыйнаму сцэнару фальсіфікацый?***

На сёння вельмі мала чыннікаў, якія бы маглі прымусіць Аляксандра Лукашэнку да правядзення сумленных і дэмакратычных выбараў. Грамадства знаходзіцца ў апатыі і не верыць у выбарчыя працэдуры, і таму, верагодней заўсё, не будзе патрабаваць справядлівых выбараў, бараніць свой выбар. Усё гэта, як я ўжо казаў, адбываецца на фоне пацяплення ўзаемаадносінаў з еўрапейскімі краінамі.

Я скептык адносна таго, што будуць кардынальныя змены ў правядзенні выбараў, але ў інтарэсах рэжыму прадэманстраваць паступовы прагрэс. У мінулым годзе мы назіралі ўключэнне ў Палату прадстаўнікоў двух незалежных кандыдатаў. У наступным годзе, я не выключаю, што некалькі дзясяткаў прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў патрапяць у мясцовыя саветы.

***Але ці адыграюць вялікую ролю ў палітычным жыцці краіны некалькі дзясяткаў гэтых дэпутатаў?***

Не так даўно, у 2003-2007 гг, дэпутатамі мясцовых Саветаў былі каля 100 дэмакратаў. Я б не сказаў, што яны моцна пахіснулі рэжым, але на месцах, там, дзе мандат атрымалі актыўныя людзі, яны прадэманстравалі, што абраныя дэпутаты лепш, чым прызначэнцы ад улады. Такія дэпутаты на самой справе прадстаўляюць інтарэсы выбаршчыкаў.

***Ці не зашмат у нас дэпутатаў мясцовых саветаў?***

Змена колькасці дэпутатаў мясцовых Саветаў мусіць стаць вынікам змены адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення Беларусі. На маю думку, такая рэформа патрэбна з аптымізацыяй складу Саветаў.

Трэба памятаць, што дэпутаты не з'яўляюцца чыноўнікамі, не атрымліваюць заробак, працуюць на грамадскіх пачатках. Але яны маюць мандат і ў іх руках магчымасць праяўляць ініцыятыву і працаваць на карысць сваіх выбаршчыкаў. Калі дэпутат абраны ў выніку канкурэнтнай барацьбы, то ён будзе працаваць. Калі, ён прызначаны ўладамі, то ніякага эфекту для выбаршчыка і ніякай дэпутацкай дзейнасці чакаць не даводзіцца.

***Юрый, ці лічыце вы, што разам з выбарамі можа адбыцца рэферэндум?***

Мяркую, што правядзенне рэферэндума — малаверагодна, бо засталося няшмат часу. Калі б ішла гутарка пра рэферэндум, то ўжо б была запушчана агітацыйная машына ў падтрымку пытанняў, якія бы ўлада жадала задаць грамадзянам. Аднак, на дадзены момант мы назіраем поўны штыль.

Па-другое, сённяшні такі грамадскі настрой, што людзі прагаласуюць супраць, якія б пытанні не былі вынесеныя. Усё гэта звязана з дастаткова цяжкім эканамічным станам, у якім знаходзіцца наша краіна, і адсутнасцю веры ў тое, што ўлада можа нешта зрабіць.

***Ці будзе «Рух «За Свабоду» удзельнічаць у выбарах і ў назіранні за імі?***

Так, мы плануем падтрымаць дастаткова вялікую колькасць кандыдатаў. Канкрэтнай лічбы пакуль няма, але мы актыўна працуем з людзьмі, праводзім для іх навучанне, шукаем магчымасці, каб яны пачалі свае кампаніі загадзя, а не ў дзень абвяшчэння выбараў. Шмат хто з нашых людзей працуе ў сваіх гарадах, мае аўтарытэт — усё гэта можна скарыстаць і пад час выбарчай кампаніі.

Ва ўмовах адсутнасці выбараў мы разглядаем электаральную кампанію, як магчымасць дайсці да вялікай колькасці людзей і, у прыватнасці, дзейнічаць публічна, працаваць на карысць Беларусі на вуліцах, выстаўляць пікеты. Рабіць усё ў легальным прававым полі без рызыкі атрымаць за гэта нейкае пакаранне.

**Прэс-служба кампаніі назірання «Права выбару-2018»**

ДЫСКУСІЯ

# ЦІ ПАТРЭБНЫЯ БЕЛАРУСІ САВЕЦКІЯ ПОМНІКІ?

**У Польшчы прыняты закон аб зносе помнікаў савецкага таталітарызму. Раней дэкамунізацыю правяла Украіна і краіны Балтыі. Што рабіць у будучыні з савецкімі помнікамі ў Беларусі: валіць ці пакінуць? Дыскутуюць журналісты Радыё Свабода Юры Дракахруст і Дзьмітры Гурневіч.**

***Юры Дракахруст лічыць, што многія савецкія помнікі нельга кранаць, бо ...***

- Пункт адліку для помнікаў: нашы — ня нашы. У дадзены момант большасьць беларусаў лічаць Чырвоную Армію нашай.
- Палякі мяркуюць, што Чырвоная Армія — гэта чужая навала. Але менавіта тая «жахлівая» Чырвоная Армія заваявала для палякаў Вроцлаў і Гданьск.
- У Польшчы падчас вайны была сур'ёзная антынацысцкая альтэрнатыва — Армія Краёва, якая змагалася зь Гітлерам. У Беларусі асноўная маса супраціву была камуністычнай. Як і ў Югаславіі. Там, дарэчы, помнікі не зьнішчаюць.
- Беларусі патрэбны помнік Машэраву, бо пры ім паўстала мадэрновая Беларусь. Пасьля вайны, пры Машэраве, Беларусь стала другой краінай па ўзроўні жыцьця і адукацыі. Сёньняшняя Беларусь створаная пры Машэраве.

***Дзьмітры Гурневіч лічыць, што многія савецкія помнікі трэба дэмантаваць, бо ...***

- Савецкі пэрыяд вельмі трагічны ў гісторыі Беларусі. Многія савецкія дзеячы, якім стаяць помнікі ў Беларусі, і ў гонар якіх названыя вуліцы, адказваюць за чорныя старонкі беларускай гісторыі і вельмі часта былі катамі беларусаў.
- Палякі не чапаюць помнікаў на могілках. Памерлыя заслугоўваюць павагі. Помнікі можна перанесьці туды або разьмясьціць у гістарычных парках.
- Чырвоная Армія — гэта ня толькі сымбаль вызваленьня Беларусі. На яе штыках у Беларусь быў прынесены бальшавіцкі таталітарызм. Ён быў меншым злом, чым нацысцкі таталітарызм, але яго сутнасьць тая ж. Нельга геraізаваць ЧА як арганізацыю. Варта ўшаноўваць асобных людзей.
- Помнікі Адамовічу, Быкаву і іншых героям вайны павінны быць у цэнтрах беларускіх гарадоў. Але сёньня для ўлады яны чамусьці не героі.
- Манаполія савецкіх помнікаў вызначае атмасфэру вакол нас і нашу мэнтальнасьць. Прысутнасьць цягам 50 гадоў леніных-дзяржынскіх стварае постколяніяльны сындром у беларусаў.
- Помнік Машэраву ў Беларусі недапушчальны празь яго русіфікацыйную лінію, зьнішчэньне гістарычнага Менску. Ён быў сымбалем савецкай акупацыі.

***"Радыё Свабода"***

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.09.2017 у 16.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.